Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 390.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Аўторак, 12 траўня 1998 г. | № 48 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### «Праведнікаў свету» запрасілі ў Ізраіль

**Ізраільскі прэзідэнт Эзер Вейцман і прэм'ер-міністр Біньямін Нетаньяху запрасілі 50 «праведнікаў свету» на ўрачыстасці з нагоды 50-годдзя Ізраіля. У лік запрошаных трапілі двое мінчан: 74-гадовы Віктар Ігруша і 77-гадовая Людміла Мачуленка.**

Званне «праведніка свету» прысвойваецца людзям розных нацыянальнасцяў, якія з рызыкай для жыцця ратоўвалі яўрэяў у гады Другой сусветнай вайны. Ім уручаецца спецыяльны медаль з надпісам «Той, хто ратаваў адно жыццё — ратаваў увесь свет».

Людміла Мачуленка выратавала Асю Траццякову з маленькім сынам, якія ў 1941 годзе трапілі ў мінскае гета. Жанчына прыносіла прадукты Асі, а потым прытуліла яе з сынам у сваёй сям'і. У 1943 годзе Віктар Ігруша даў прытулак у сваім доме былому студэнту мінскага палітэхнікума Яўгену Сельману.

Імёны Л.Мачуленка і В.Ігрушы, як і іншых «праведнікаў свету» (толькі ў Беларусі іх каля 150) занесеныя на мемарыяльную сцяну ізраільскага музея-інстытута «Ядва-Шэм» (у перакладзе — «імя — памяць»). Дэлегацыя «праведнікаў свету» пабывала ў гэтым інстытуце, а таксама на прыёме ў кіраўнікоў Ізраіля і членаў кнэсета (парламента). Акрамя таго, з імі сустрэліся мэры буйнейшых гарадоў — Іерусаліма, Тэль-Авіва і Хайфы. Выратавальнікі яўрэяў пазнаёміліся таксама з гістарычнымі славутасцямі біблейскіх мясцінаў Віфлеема, Назарэта і Галілеі.

Як паведамілі ў ізраільскай амбасадзе, Віктар Ігруша вярнуўся ў Мінск 8 траўня, а Людміла Мачуленка засталася пагасціць у Ізраілі яшчэ на тыдзень.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

### Рэальная зарплата ў Беларусі зніжаецца

Такую выснову можна зрабіць, калі прааналізаваць афіцыйныя дадзеныя па зарплаце за студзень — сакавік гэтага года. Рублёвую зарплату мы пералічылі ў доларах і атрымалася, што ў сярэднім па народнай гаспадарцы рэальны заробак зменшыўся амаль на 2 працэнты. Вельмі значным было падзенне зарплаты ў прамысловасці, на транспарце, у работнікаў сувязі і медыкаў. Што ж тычыцца павелічэння даходаў у сельскай і лясной гаспадарцы, то гэта звязана з пачаткам новага сезону і пасяўной. А найбольш высокія заробкі былі ў работнікаў банкаў (150 долараў) і ў органах кіравання (больш за 100 долараў). Найменш за ўсіх атрымлівалі калгаснікі і работнікі сацыяльнай сферы.

Агульная карціна росту-падзення сярэдняй зарплаты (у доларах) бачна ў табліцы, якая друкуецца ніжэй.

| | Студзень 1998 г. (зарплата ў доларах) | Сакавік 1998 г. | Рост альбо падзенне (у %) |
|---|---|---|---|
| Прамысловасць | 94,4 | 89,1 | –5,7 |
| Сельская гаспадарка | 39,6 | 41,9 | +5,8 |
| Лясная гаспадарка | 56,7 | 66,5 | +17,2 |
| Транспарт | 85,0 | 78,8 | –7,2 |
| Сувязь | 82,8 | 71,3 | –13,8 |
| Будаўніцтва | 95,9 | 88,5 | –7,7 |
| Гандаль і грамадскае харчаванне | 64,0 | 63,4 | –0,9 |
| Ахова здароўя | 61,4 | 57,0 | –7,2 |
| Сацыяльнае забеспячэнне | 34,2 | 38,4 | +12,4 |
| Адукацыя | 54,1 | 60,7 | +12,2 |
| Культура | 47,2 | 50,2 | +6,3 |
| Навука і навуковае абслугоўванне | 84,3 | 80,3 | –4,7 |
| У цэлым па народнай гаспадарцы | 73,8 | 72,5 | –1,7 |

### Ахвяры інтэграцыі

**Не паспела адшумець у Гомелі сесія парламенцкага сходу Саюза Расіі і Беларусі, як гараджане змаглі адчуць першыя «плады» інтэграцыі.**

Выдаткаваўшы на падрыхтоўку "саюзнай" сесіі і ўпарадкаванне Гомеля 160 млрд. рублёў, абласны бюджэт не мае цяпер грошай, каб выплаціць заробкі работнікам навучальных установаў абласнога падпарадкавання. У прыватнасці, чакаюць затрымана зарплату педагагічныя калектывы абласнога ліцэя, музычнага і педагагічнага каледжаў.

**А.Н.**

### Запаслівыя злодзеі

**У Светлагорску арыштавана арганізаваная злачынная групоўка, якая паўгода займалася грабяжамі прыватных гаражоў.**

За гэты час банда з чатырох чалавек накрала рознага дабра на суму каля 1 мільярда рублёў. Але амаль усе скрадзеныя рэчы ўдалося канфіскаваць, паколькі бандыты не спяшаліся іх рэалізоўваць і захоўвалі ў "засакрэчаным" памяшканні. Для перавозкі канфіскаванага супрацоўнікам міліцыі спатрэбіліся чатыры грузавікі.

*БелаПАН*

## Па галоўнай вуліцы з аркестрам

**Шэсцем ветэранаў, народнымі гуляннямі і святочным салютам была адзначаная ў Мінску 9 траўня 53-я гадавіна Перамогі ў Другой сусветнай вайне.**

У першых шэрагах ветэранскага шэсця ішоў лепшы сябра франтавікоў Аляксандр Лукашэнка разам з сынам Віцем і шматлікай аховай. Рыгоравіча таксама суправаджалі прэм'ер Сяргей Лінг і кіраўнікі прэзідэнцкага парламента Павел Шыпук і Анатоль Малафееў. У чырванасцяжнай калоне, якая пад гукі бравурных савецкіх маршаў рухалася да абеліска на плошчы Перамогі, ішло прыкладна 3 тысячы чалавек (многіх сагналі сюды па разнарадцы).

Перад помнікам Перамогі прэзідэнта сустрэла група патрыятычна настроенага духавенства на чале з мітрапалітам Філарэтам. Рыгоравіч усклаў кветкі да абеліска, пасля чаго выступіў з кароткай прамовай. Акрамя дзяжурных словаў наконт перамогі, Лукашэнка трохі папалохаў ветэранаў нацыяналізмам, які *«зноў падымае галаву»*, паабяцаў мацаваць братні саюз з Расіяй, а таксама заявіў, што цяпер ветэранам, у адрозненне ад часоў разгулу дэмакратыі, не трэба баяцца насіць свае ўзнагароды. Потым Рыгоравіч сеў у «Мерседэс» і ўкаціў. Ветэраны, усклаўшы кветкі да Вечнага агню, таксама пачалі разыходзіцца, каб падняць сто грамаў за перамогу. Перад помнікам засталася толькі групка старых сталіністаў, якая пад транспарантам з патрабаваннем адрадзіць Савецкі Саюз спявала песні свайго камсамольскага юнацтва.

А ўвечары парк Горкага і праспект Машэрава запаланіла моладзь, якая піла піва і «адцягвалася» на дыскатэчных пляцоўках. Пасля заканчэння салюту арганізатары святкавання ў парку аб'явілі, што мерапрыемства скончанае. Публіка рушыла на праспект, але тратуары і падземныя пераходы яўна не маглі змясціць людзей, якія жадалі хутчэй дабрацца да прыпынкаў грамадскага транспарту. Аднак міліцэйскае начальства не дадумалася хоць на нейкі час перакрыць рух транспарту на плошчы, каб людзі змаглі спакойна разысціся. Такое, відаць, бывае ў краінах, дзе ўлада паважае свой народ. А ў нас павага да людзей была выказаная невядомым міліцыянтам праз гукаўзмацняльнік наступнымі словамі: *«Куда прешь на дорогу, быдло? Дубинки попробовать захотел?»*

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



*Пакуль каля Вечнага агню прамаўляў Лукашэнка, подступы да помніка Перамогі ахоўвала міліцыя.*

### Прапановы

***Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі звярнулася ў Саўмін з прапановай павялічыць тарыфную стаўку 1-га разраду і тым самым падвысіць узровень зарплаты. Але ва ўрадзе адхілілі прафсаюзную прапанову, заявіўшы, што павышэнне тарыфнай стаўкі магчымае не раней як 1 студзеня 1999 г.***

### Турніры

***На мінулым тыдні ў Гомелі адкрыўся міжнародны турнір па інтэлектуальных гульнях «Кубак Палесся». Турнір праводзіцца ўжо чацвёрты год запар. Гэтым разам у ім удзельнічаюць больш за 50 дзіцячых, студэнцкіх і дарослых камандаў знатакоў з Беларусі, Расіі, Украіны, Малдовы і Прыбалтыкі. У праграме турніру — гульні па сістэме «Што? Дзе? Калі?» і Брэйн-рынг.***

### Акцыі

***У нядзелю, 10 траўня ў шматлюдным цэнтры Брэста (каля кінатэатра «Беларусь») трое маладых людзей разарвалі на шматкі лукашэнкаўскі сцяг і паспрабавалі яго спаліць. Несанкцыянаваная акцыя з нагоды дзяржаўнага свята (дня герба і сцяга) працягвалася некалькі хвілінаў. Удзельнікам знішчэння чырвона-зялёнага сцяга ўдалося ўцячы.***





*Без партрэтаў Сталіна і Лукашэнкі не абыходзіцца ні адно афіцыйнае мерапрыемства. Партрэты Рыгоравіча падчас ветэранскага шэсця даручылі несці школьнікам.*

## Гэты дзень мы набліжалі як маглі?

**8 траўня на ўрачыстым паседжанні, прысвечаным Дню Перамогі, беларускі прэзідэнт адсутнічаў.**

*«Чаму? Што здарылася? Відаць, нечым экстраардынарным заняты наш прэзідэнт, калі не знайшоў часу прыехаць нас павіншаваць»,* — абменьваліся меркаваннямі ўдзельнікі сходу.

Рыгоравіч сапраўды быў «заняты»: у гэты час ён ганяў шайбу на катку ў сталічным парку Горкага. У шэсць гадзінаў вечара, якраз калі на ўрачыстым паседжанні Шэйман агучваў пасланне Лукашэнкі ветэранам, хакейны палац ачапіла міліцыя і да ўваходу пад'ехаў прэзідэнцкі «мерседэс» з чырвона-зялёным сцяжком. Аляксандр Рыгоравіч гуляў у сваю любімую гульню прыкладна да васьмі вечара, а потым з'ехаў у рэзідэнцыю. Стомлены, але, відаць, задаволены. Тым, што 8 траўня і ў яго была свая перамога.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

*Новы выканаўчы сакратар СНД пабываў у Мінску*

# Турнэ Барыса Беразоўскага

**Новы выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі ваяжыруе па сталіцах СНД. У пятніцу ён быў у Мінску, а перад гэтым наведаў Кішынёў і Кіеў.**

У мінскай штаб-кватэры СНД Барыс Беразоўскі сустрэўся з паўнамоцнымі прадстаўнікамі краінаў садружнасці. У размове з імі новы шэф сакратарыята падкрэсліў, што форум СНД, які запланаваны на ліпень, павінен быць падрыхтаваны асабліва грунтоўна. Спяшацца ў гэтай справе не трэба, бо, на думку Беразоўскага, самыя дарагія памылкі — гэта памылкі праектавання. Дарэчы, 19 траўня ў Мінску Барыс Беразоўскі праўдзе паседжанне рабочай групы па падрыхтоўцы гэтага форуму.

Сустрэча Беразоўскага з Лукашэнкам адбывалася ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі і праходзіла за зачыненымі дзвярыма (яны размаўлялі паўтары гадзіны). Як вядома, ранейшыя адносіны паміж Лукашэнкам і Беразоўскім былі далёкія ад прыязных. Не так даўно беларускі прэзідэнт публічна назваў Барыса Абрамавіча жулікам, таму журналістаў цікавіла, ці ўдалося ім цяпер знайсці агульную мову. Пасля сустрэчы з кіраўніком Беларусі Барыс Беразоўскі сказаў, што хаця раней у іхніх асабістых адносінах



*Барыса Беразоўскага ў Мінску сустракаў і праводзіў Іван Каратчэня.*

былі праблемы, аднак Аляксандр Лукашэнка, па словах новага сакратара СНД, здолеў над імі паднясца. Беразоўскі таксама адзначыў, што іхнія з Лукашэнкам стратэгічныя мэты ў адносінах да СНД супадаюць. Гаворачы пра сустрэчы з прэзідэнтамі Украіны і Малдовы, Беразоўскі заявіў, што не заўважыў у іх адмоўнага стаўлення да СНД, а ўбачыў заклапочанасць адсутнасцю канкрэтных дзеянняў і жаданне развіваць адносіны ў рамках садружнасці. Беразоўскі лічыць, што СНД валодае вялікімі нерэалізаванымі магчымасцямі.

Пасля перамоваў з Лукашэнкам Барыс Беразоўскі вылецеў у Баку, дзе ён сустрэўся з прэзідэнтам Гейдарам Аліевым і ўдзельнічаў у святкаванні 75-годдзя з дня нараджэння кіраўніка Азербайджана.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Барыс Беразоўскі выказаў жаданне не толькі працаваць у Мінску, але і набыць тут дом. Як паведамілі беларускія афіцыйныя крыніцы, гэтае пытанне абмяркоўвалася падчас гутаркі Барыса Беразоўскага з Аляксандрам Лукашэнкам. Прэзідэнт запэўніў новага шэфа апарату СНД у тым, што праблем з яго пражываннем і размяшчэннем у Мінску не будзе, і паабяцаў сваю падтрымку ў гэтым пытанні.

*БелаПАН*

# Хочаш стаць магістрам?

*У Мінску адрадзіўся Беларускі калегіум*

**У мінулую пятніцу ў музеі Максіма Багдановіча адбылася прэзентацыя гэтай грамадскай навучальнай установы. Першую лекцыю прачытаў вядомы паэт Алесь Разанаў.**

Калісьці, дзякуючы менавіта калегіумам, наш край выйшаў на перадавыя пазіцыі ў Еўропе па ўзроўні выкладання класічных гуманітарных дысцыплінаў. З 16-га да пачатку 19-га стагоддзя ў Беларусі дзейнічалі дзесяткі калегіумаў, найбуйнейшыя з іх у Брэсце, Віцебску, Магілёве, Мінску, Нясвіжы, Слуцку, Гродне, Пінску. Большасць калегіумаў была закрытая ў 1773 годзе, калі землі нашай краіны адышлі Расіі ў выніку апошняга падзелу Рэчы Паспалітай. Некаторыя калегіумы (Аршанскі, Полацкі, Мсціслаўскі) пратрымаліся да 1820 года — тады з Расіі выгналі манашаскі ордэн езуітаў, намаганнямі якога і трымаліся калегіумы.

Цяперашняе адраджэнне калегіума ў Беларусі ніяк не звязаная з рэлігійнай дзейнасцю. *«Мы хочам стварыць сістэму альтэрнатыўнага выхавання і адукацыі, што вельмі важна зараз, у цяжкія для беларушчыны часы»,* — адзначыў дырэктар Беларускага калегіума Алесь Анціпенка. Беларускі калегіум прапануе трохгадовыя (магістарскія) праграмы па трох агульных курсах: філасофія-літаратура, журналістыка, найноўшая гісторыя. Кожны з агульных курсаў уключае шэраг спецыяльных курсаў і семінараў. Апроч навучання, калегіум, верны старадаўнім традыцыям, абяцае стаць месцам публічнага дыялогу, кантактаў і супрацоўніцтва з заходнімі калегамі.

Дарэчы, праект «Беларускі калегіум» рэалізуецца выключна грамадскімі арганізацыямі. Сярод іх «Эўро Форум», гуманітарны фонд «Наша Ніва», Інстытут Цэнтральна-Усходняй Еўропы, Беларуская асацыяцыя журналістаў. Сваё супрацоўніцтва з БК шчыра абяцаюць выкладчыкія асяродкі Польскага інстытута ў Мінску, Варшаўскага і Львоўскага універсітэтаў.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## У мытнікаў – юбілей

**Гомельская мытня адзначыла пятую гадавіну з дня нараджэння. Сёння яна мае 27 пунктаў, дзе працуюць 568 чалавек.**

Мытня — справа прыбытковая. Толькі сёлета гомельскія мытнікі прынеслі ў даход дзяржавы 89 млрд. рублёў. Праўда, не ўсе работнікі вытрымліваюць спакусу лёгкіх даходаў. За злоўжыванні за два апошнія гады былі звольненыя 60 інспектараў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## «Сэрца і рукі» з Германіі

**Нямецкая арганізацыя «Сэрца і рукі для Чарнобыля» даставіла ў Мазыр чарговую партыю гуманітарнай дапамогі, якая адрасуецца праваслаўным вернікам Тураўска-Мазырскай епархіі.**

Супрацоўніцтва паміж пратэстантамі нямецкага горада Глабека і Тураўска-Мазырскай епархіяй распачалося тры гады назад. За гэты час арганізацыя «Сэрца і рукі для Чарнобыля» неаднаразова аказвала мясцовай праваслаўнай царкве фінансавую падтрымку, прывозіла будаўнічыя матэрыялы і фарбу для рамонту храмаў. Гэтым разам немцы прывезлі яшчэ і грошы на аднаўленне Юравіцкага манастыра.

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

## Ратуша-музей

**Працягваецца рэстаўрацыя ўнікальнага помніка архітэктуры XVIII стагоддзя — Чачэрскай ратушы.**

Ратуша была пабудаваная ў часы Вялікага Княства Літоўскага, калі Чачэрск карыстаўся прывілеямі Магдэбургскага права і меў свой магістрат. Згарэла ратуша ў 1974 годзе, а ў 1992-м былі распачатыя рэстаўрацыйныя работы. За гэты час аднолены фасад і пяць вежаў ратушы. Гэтыя работы абышліся ў 750 мільёнаў рублёў. Праз год, калі работы ў будынку ратушы скончацца, там размесціцца гісторыка-этнаграфічны музей.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Мінск шантажуе Кіеў

*На мінулым тыдні беларуска-украінскія адносіны злёгку абвастрыліся*

У мінулы чацвер у Кіеве беларускі пасол Віталій Курашык быў выкліканы для размовы да першага намесніка міністра замежных справаў Украіны. Назаўтра пасла, які назаўтра рыхтаваўся адзначыць дзень нараджэння, сустрэлі зусім не віншаваннямі.

Прычынай раптоўных «кансультацыяў», якія правялі з Курашыкам украінскія дыпламаты, стала заява беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, зробленая ім на форуме журналістаў СНД у Мінску. Адказваючы на пытанне ўкраінскіх журналістаў, чаму Беларусь дагэтуль не ратыфікавала дагавор з Украінай аб сумеснай мяжы, Лукашэнка нечакана звязаў ратыфікацыю з іншымі двухбаковымі праблемамі. У прыватнасці, ён заявіў, што Украіна павінна Беларусі прыкладна 214 мільёнаў долараў. *«Вось калі заробіце нам грошы на забор, тады і ратыфікуем дагавор аб сумеснай мяжы, калі ўжо ён вам так патрэбны»*, — адказаў Лукашэнка ўкраінскім журналістам.

Гэтае выказванне вельмі здзівіла ўкраінскае кіраўніцтва. У Кіеве разглядаўся нават варыянт адказаць Лукашэнку нотай, але потым, улічваючы суседскія адносіны, вырашылі абмежавацца «кансультацыямі з паслом». Падчас гэтых кансультацыяў беларускаму амбасадару нагадалі, што дагавор, падпісаны Леанідам Кучмам і Аляксандрам Лукашэнкам 12 траўня 1997 г., ніяк не быў увязаны з іншымі пытаннямі двухбаковых адносінаў. Усё рабілася дзеля таго, каб хутчэй урэгуляваць памежныя пытанні, што непазбежна ўзнікалі паміж дзвюма незалежнымі краінамі. У выніку Вярхоўная Рада Украіны ратыфікавала гэтую дамову ўжо праз два месяцы пасля падпісання, а беларусы дагэтуль не сабраліся. Украінцы неаднаразова нагадвалі нам, што дагавор — справа ўзаемная, але пакуль у беларускіх парламентарыяў *«на жаль, не хапае часу»*.

Па нашай просьбе сітуацыю пракаментаваў першы сакратар пасольства Украіны ў Беларусі Іван Бунэцько. Ён паведаміў, што праца сумесная камісія, якая разбіраецца ва ўзаемных фінансавых і маёмасных прэтэнзіях. Па словах дыпламата, Беларусь прэтэндавала прыкладна на 30 аб'ектаў на тэрыторыі Украіны. *«Па большасці з іх, —* сказаў сп.Бунэцько, *— пытанне вырашанае»*. Крок за крокам ідуць наперад і перамовы па фінансавых прэтэнзіях. Але дыпламат падкрэсліў, што ўсе гэтыя пытанні ніяк не звязваліся дагаворам аб сумеснай мяжы, які абодва прэзідэнты *«добраахвотна падпісалі год таму ў Кіеве»*.

Між тым у беларускай амбасадзе ў Кіеве нам паведамілі, што перамовы аб вяртанні доўгу, эквівалентнага 214 мільёнам долараў, вядуцца паміж Беларуссю і Украінай ажно з 1993 года. Украінскі ўрад пагаджаецца, што грошы не заплаціў, але канкрэтнай дамовы не падпісвае. Вось і прыйшлося прэзідэнту Лукашэнку звязаць ратыфікацыю з доларамі. *«А як яшчэ выбіць з іх грошы?»* — задае пытанне супрацоўнік нашай амбасады, каментуючы заяву Лукашэнкі...

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Тытунёвыя пражэкты

Яшчэ з царскіх часоў існуе ў Гродне адзін аб'ект, які любіць наведваць сталічнае начальства. Гэта — тытунёвая фабрыка. Адзіная, як вядома, у краіне. І каб экскурсантамі былі выключна курцы, ніхто б не здзівіўся. А то ж наадварот. Прадпрыемства вабіць усё больш тых, хто пастаянна памятае пра грознае папярэджанне міністэрства аховы здароўя і не сябруе з нікацінам. Напрыклад, наш прэзідэнт. Заехаў неяк Аляксандр Рыгоравіч на фабрыку і ўсё хадзіў, разглядаў, як цыгарэты вырабляюцца, ды прыкідваў, як бы павыгадней прадаць правы на рэканструкцыю замежнаму капіталу. Адразу пасля гэтага з'явіліся паведамленні, што доступ да пакета акцыяў узамен за інвестыцыі атрымае адна заходняя фірма. Называліся нават канкрэтныя лічбы. Аднак час ішоў, але ніякіх там мясцовых «лакі страйк» гродзенцы так і не ўбачылі.

Мінула амаль два гады. Нарэшце гэтай вясной у складзе вялікага дэсанту ў горад завітаў прэм'ер Лінг, ды хутчэй на тытунёвую фабрыку. І што ж пачулі рабочыя ад старшыні ўрада, якія абяцанкі? А тое, што вырашана дапусціць у іхнюю тытунёвую гаспадарку ўжо не амерыканцаў ці англічанаў, а сваіх братоў-славянаў, ды яшчэ праваслаўных — балгараў, карацей.

Госць укацiў у сталіцу, а рабочыя пачалі пакрысе марыць пра балгарскія пляжы і «пліску». Марныя мары! Праз месяц у горадзе раптам паявіліся турэцкі міністр, пасол і цэлая дэлегацыя. І зноў — на тытунёвую фабрыку. Маўляў, вельмі хацелі б супрацоўнічаць у тытунёвай галіне. Кіраўнік абласной вертыкалі Дубко паабяцаў туркам са свайго боку ўсялякае спрыянне. Як тут не ўспомніць, што балгары з туркамі былі адвечнымі ворагамі, і вось іхнія інтарэсы сутыкнуліся гэтым разам у старажытным беларускім горадзе, дзе балгараў даўней ніколі не бачылі, але затое ў каралеўскія яшчэ часы існавала турэцкая капэла і была моднай «янычарская» музыка.

Трэба таксама сказаць, што і без усякіх замежных рэканструкцыяў цыгарэты з зубром на пачку карыстаюцца ў нашых курцоў вялікай папулярнасцю. Нядаўна ў гэтым яшчэ раз пераканалася міліцыя. Глыбокай ночу, седзячы пад фабрычным плотам, міліцэйскі нарад падцікаваў двух злодзеяў, якія скралі 17 мяхоў з цыгарэтамі на 45 мільёнаў рублёў. Даваліся, праўда, стралялі і нават сабаку нацкаваць, але абодвух затрымалі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Невядомы салдат. Хто ён?

Адна з магілаў невядомага салдата на Ваенным Мемарыяле ЗША ў Арлінгтане, штат Вірджынія, будзе ўскрытая для правядзення генетычных даследаванняў парэшткаў.

Амерыканскі міністр абароны Ўільям Коэн загадаў правесці гэтую беспрэцэдэнтную аперацыю па патрабаванні сям'і лейтэнанта ваенна-паветраных сілаў Майкла Блэссі. Сям'я ўпэўненая, што ў магіле знаходзяцца парэшткі Майкла.



*На здымку: лейтэнант Майкл Блэссі, сям'я якога настойвае на правядзенні ідэнтыфікацыі парэшткаў.*

Самалёт Майкла Блэссі быў збіты над В'етнамам 11 траўня 1972 года. Сярод абломкаў самалёта ў джунглях былі знойдзеныя чалавецкія парэшткі. Спачатку лічылася, што гэта парэшткі Майкла Блэссі, але пасля правядзення некаторых тэстаў іх перакласіфікавалі як «невядомыя» і пахавалі ў склепе ахвяраў В'етнамскай вайны ў 1984 годзе. Але з таго часу навука рушыла далёка наперад, і цяпер цалкам магчыма, што генетычныя даследаванні дапамогуць дакладна высветліць асобу загінуўшага вайскоўца.

«Калі сёння ў нас ёсць магчымасць ідэнтыфікаваць парэшткі, мы мусім паспрабаваць гэта зрабіць», — заявіў прэс-сакратар міністэрства абароны ЗША Кен Бэйкан.

Мемарыял у Арлінгтане прысвечаны памяці амерыканцаў, што загінулі падчас дзвюх сусветных войнаў, а таксама карэйскага і в'етнамскага ўзброеных канфліктаў. Дагэтуль ніводная магіла не ўскрывалася.

На думку прадстаўнікоў Пентагона, спрэчныя парэшткі не абавязкова належаць Майклу Блэссі. Цалкам магчыма, што ў склепе захоўваюцца парэшткі армейскага капітана Родні Стобрыджа або яшчэ некага з дзевяці вайскоўцаў, што загінулі ў гэтым раёне В'етнама ў 1972 годзе. Але, па словах сястры Майкла Блэссі Патрыцыі, сям'я гатовая да такога развіцця падзеяў: «Мы разумеем, што экспертыза можа даць як станоўчы, так і адмоўны вынік. Але мы настойваем на правядзенні гэтай экспертызы». Бацькі Стобрыджа лічаць, што экспертыза не мае сэнсу, але не пярэчаць патрабаванням сям'і Блэссі.

Ускрыццё магілы плануецца на 14 траўня. Парэшткі знаходзяцца пад слоем мармуровых пласцінаў, якія трэба будзе ўзняць. Гэтая аперацыя будзе каштаваць 20 тысячаў долараў.

Каб правесці сучасную экспертызу ДНК, спатрэбіцца не менш за тры месяцы. Але, на думку экспертаў, ёсць добрыя шанцы ўсё ж вызначыць асобу загінуўшага амерыканскага вайскоўца.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Бирмингем готовится к саммиту «восьмерки»

**15-17 мая в Бирмингеме, втором по величине городе Великобритании, пройдет встреча глав государств и правительств 8 ведущих индустриальных стран мира, включая Россию.**

Город завершает подготовку к этому важному событию. При пресс-центре саммита уже аккредитовано более 2 тыс. журналистов. Благодаря их встречам с городскими историками и поискам в архивах всплывают любопытные факты из прошлого и настоящего Бирмингема.

Город славен известными именами своих жителей. В 1775–1819 годах здесь работал Джеймс Ватт, знаменитый изобретатель, чье имя стало единицей измерения мощности электроприборов. Менее известно, что именно Ватт запатентовал первый паровой двигатель и сконструировал прообраз ксерокопирующего устройства. Здесь же в Бирмингеме священник-ученый Джозеф Пристли открыл в конце XVIII века кислород, Джон Данлоп изобрел в 1888 году пневматическую шину для автомобиля, а Джон Эдвардс сделал в 1896 году первый рентгеновский снимок. Внесли свой вклад бирмингемцы и в гуманитарных областях. В 1871–1881 годах в городе жил создатель образа великого сыщика Шерлока Холмса писатель Конан Дойль.

Может быть, именно из-за известности многих своих жителей и той индустриальной мощи, которой он обладал в XVIII–XIX веках, городу не удалось сохранить оригинальность своего имени. В разных странах мира есть еще 30 Бирмингемов, не говоря уже о лунном кратере с таким же названием. На это британский Бирмингем ответил тем, что назвал свои пригороды Голливудом, Бродвеем и Калифорнией.

Сегодня Бирмингем — это город с 1 млн. жителей, 3 университетами, 8 колледжами и 457 школами. Он поддерживает широкие международные связи и имеет в разных странах 6 городов-побратимов, включая Запорожье на Украине.

Бирмингемцы любят читать. Центральная городская библиотека — самая большая в Европе и вместе с районными библиотеками ежегодно выдает 7 млн. книг.

Бирмингем гордится своей чистотой. Дворники, работающие по найму Горсовета, регулярно подметают 2.100 км улиц и опустошают 4 тыс. урн для мусора. На городскую свалку ежегодно выбрасывается 455 тонн отходов. Бирмингемцы считают свой город самым зеленым в Европе. Как утверждают туристические справочники, здесь 1 млн. деревьев и больше парков и открытых пространств, чем в любом другом европейском городе. Бирмингем 17 раз завоевывал золотые медали на национальной британской выставке цветов «Челси флауэр шоу».

*РИА «Новости»*

*Россия*

# Олигархи к бою готовы

Отставка правительства В.Черномырдина, последовавший за ней период безвластия и, наконец, создание нового Кабинета министров завершили, по сути, целую эпоху в новейшей истории России. Расстановка сил на российском политико-экономическом олимпе изменилась почти до неузнаваемости. На сей раз ведущие финансово-промышленные магнаты оказались в проигрыше. Однако хорошо смеется тот, кто смеется последним...

## «Новые бояре»: вчера и сегодня

Напомним, что, согласно высказываниям Б.Березовского, в состав российской «великолепной семерки» входят он сам, В.Потанин (Онэксимбанк), В.Гусинский (Мост-банк), М.Ходорковский (Менатеп), А.Смоленский (Столичный банк сбережений), М.Фридман и П.Авен (Альфа-группа и Альфа-банк). Группа эта, во многом разрозненная, едина в одном — желании срастись с властью для получения полного контроля над российской экономикой. Недавние попытки олигархов прорваться на волне правительственного кризиса во власть оказались тщетными. «Своих людей» не удалось продвинуть ни в министерские кресла, ни в премьерское. Из чего следует, что новое российское правительство намерено быть в гораздо большей мере дистанцированным от олигархов.

Это означает, что представителям «семибанкирщины» в ближайшие месяцы не удастся приблизиться к самой вожделенной своей цели — получению контроля над естественными монополиями. Банкиры прекрасно понимают, что тот, кто контролирует «большую тройку» (газ, железные дороги, электроэнергию), контролирует всю экономику России. «Большой тройке» должны гигантские суммы и предприятия, и регионы. Именно поэтому ее хозяин может «сожрать» любое (!) предприятие и добиться любой (!) поддержки от любого из регионов. Наилучшим способом достижения цели было бы для банкиров продвижение «своего», управляемого и ручного премьера. С.Кириенко же им стать не захотел.

Дальнейшие события показали, что «хозяином» естественных монополий в очередной раз попыталось стать государство. Назначение А.Чубайса на пост председателя правления РАО ЕЭС, воспринятое как пощечина и Госдумой и, чего уж греха таить, стоящей за ней «семибанкирщиной», является, по существу, не чем иным, как попыткой получить безотказное средство закачивания денег в госбюджет.

Это назначение резко обострило взаимоотношения в крупном бизнесе. Ведь, несмотря на уход в политическую тень, А.Чубайс по-прежнему остается весьма влиятельной фигурой, способной составить реальный противовес складывающемуся альянсу олигархов.

Докризисная расстановка сил в их перманентной войне хорошо известна. Группа четырех (Б.Березовский, В.Гусинский, М. Ходорковский, А.Смоленский) противостояла В.Потанину, пользовавшемуся наибольшими симпатиями ушедшего в отставку правительства, в особенности А.Чубайса. Этот же расклад сохраняется и теперь, но с некоторыми поправками.

## Карманная четвертая власть

Пионером в освоении рынка российских средств массовой информации стал, как известно, Б.Березовский, подчинивший себе телекомпанию ОРТ и частично ТВ-6, «Независимую газету» и журнал «Огонек».

Наиболее многоотраслевой и обширной информационной империей владеет Медиа-Мост В.Гусинского, которому принадлежит НТВ, радиостанция «Эхо Москвы», газета «Сегодня», журнал «Итоги» и издательство «Семь дней».

А.Смоленский (а следовательно, и Столичный банк сбережений) хотя и отрицает это, имеет в своем распоряжении издательский дом «КоммерсантЪ», журнал «Деньги» и Национальную службу новостей.

Менатеп М.Ходорковского специализируется на коммерческих изданиях типа «Плейбой», «Космополитен» и «Домашний очаг». Не так давно ворвался в передел отечественного информационного пространства Онэксимбанк, завладев «Комсомольской правдой» и получив контроль над газетой «Известия».

Все средства, вложенные в спонсирование TV и прессы, в кратчайшие сроки окупились для банкиров приобретением политического влияния и возможностью своими руками формировать общественное мнение в стране.

На этом поле В.Потанин значительно уступал конкурентам. Противовес ОРТ Б.Березовского, НТВ В.Гусинского и «Коммерсанту» А.Смоленского составляли куда менее влиятельные «Известия» и «Комсомольская правда». Именно поэтому В.Потанин справедливо считает, что пробел этот необходимо восполнить, и как можно скорее. Он прекрасно понимает, что в ситуации начинающейся межбанковской войны новый всплеск «войны компроматов» явно не заставит себя ждать. Поэтому Потанин собрался заняться расширением и реорганизацией собственных владений в области масс-медиа.

Итак, наиболее мощный инструмент воздействия на общественное мнение — средства массовой информации — остается в России полностью подконтролен олигархам. И есть все основания предполагать, что главной и наиболее уязвимой мишенью станет для них как раз новый российский премьер, так и не связавший себя обещаниями с лидерами финансово-промышленных группировок. Старт антикириенковской кампании был, по существу, уже дан Сергеем Доренко в программе «Время». Остается ждать продолжения.

## Их время еще впереди

Впрочем, пресса и TV — совсем не единственное средство политического влияния в руках банкиров. По свидетельству ряда российских изданий, «своя рука» в новом Кабинете у олигархов все же имеется. Не позднее осени этого года Министерство экономики должно утвердить план продажи Российских энергосистем в частные руки, что приведет в конечном итоге к дроблению естественных монополий и приобретению вожделенного контроля над ними.

Не за горами и выборы-2000. Опыт минувшей предвыборной кампании как нельзя лучше свидетельствует, что уж здесь-то без финансовой и информационной поддержки олигархов политикам никак не обойтись. Окончательной же расстановке сил вокруг будущих кандидатов в президенты еще суждено определиться.

Так что, несмотря на временное, хоть и чувствительное поражение, «семибанкирщина» изменит скорее всего лишь тактику своих взаимоотношений с властными структурами. Пути вхождения олигархов в большую политику станут, возможно, более извилистыми и окольными. Долгосрочная же их стратегия останется прежней, поскольку альтернативы врастания банковского капитала во власть в современной России не было и нет.

**Дмитрий ЛЫЧКОВСКИЙ,**
*обозреватель газеты «Бизнес&Балтия»*

# «Фотоохота» запрещена

*Дело было в Канаде*

**Верховный суд Канады недавно завершил слушание несколько необычного и в то же время более чем актуального судебного разбирательства.**

Паскаль Обри, школьница из провинции Квебек, предъявила фоторепортеру Гилберту Дуклосу обвинение в том, что публикацией фотографии Паскаль тот нарушил ее право на личную жизнь. На фотографии, сделанной десять лет назад, Паскаль была запечатлена отдыхающей на ступеньках монреальского здания. Эта фотография была опубликована в ныне уже не существующем монреальском журнале *Vico-Versa* и послужила иллюстрацией к статье о жизни в таких городах, как Монреаль и Ванкувер. Суд удовлетворил иск школьницы и присудил фоторепортера к уплате 2.840 канадских долларов (2.000 американских) штрафа. Важную роль в мотивации такого решения послужило утверждение Паскаль о том, что из-за этой фотографии над ней насмехались ее одноклассники.

Подобное решение суда стало прецедентом пока что только в провинции Квебек, так как дело слушалось в палате по защите прав человека в провинции Квебек. Однако, судя по всему, четыре из остальных девяти провинций Канады в ближайшее время последуют этому примеру и тоже запретят фотографировать людей без их согласия. Речь в данном случае идет не о знаменитостях, а об обычных гражданах, находящихся на улицах или в общественных помещениях. Исключение составляет лишь фотографирование «толпы» — имеются в виду многочисленные болельщики на футбольном матче или массовая демонстрация на улице. Во всех остальных случаях — при фотографировании мальчугана, уплетающего мороженое, курильщика, затягивающегося сигаретой, или нищего, выпрашивающего подачку, — фотограф должен получить согласие «объекта».

Вообще это правило давно уже стало достаточно распространенным в мире, и даже в многочисленных туристических путеводителях туристов лишний раз предупреждают о том, что перед тем, как сфотографировать араба на осле или рикшу на велосипеде, не будет лишним предложить тому несколько монет во избежание возможных неприятностей. Теперь же, по крайней мере в Квебеке, это правило приобрело силу закона. «Это нарушение права человека на его образ, — сказано было в решении суда, — и, следовательно, является противозаконным, постольку поскольку изображение публикуется без согласия и делает возможность идентифицировать личность человека».

**Оксана ПРИХОДЬКО**

# «Моладзь – крыніца пераменаў»

**У мінскім Палацы спорту 31 траўня пройдзе масавая акцыя «Дзеячы культуры, мастацтва і творчая моладзь супраць СНІДу».**

Акцыя прымеркаваная да пачатку сусветнай кампаніі ў барацьбе з «чумой ХХ стагоддзя» «Моладзь — крыніца пераменаў», а таксама да Дня памяці памерлых ад СНІДу. Мерапрыемства будзе падзеленае на дзве часткі — тэатралізаваны паказ і дыскатэка. У акцыі ўжо згадзіліся ўдзельнічаць шэраг папулярных беларускіх гуртоў і выканаўцаў.

Беларускі цэнтр прафілактыкі СНІДу, Дзяржаўны камітэт па справах моладзі прапануюць удзельнічаць у конкурсе на лепшы вершаваны твор аб прафілактыцы ВІЧ-інфекцыі, наркаманіі і венерычных захворванняў. Творы неабходна накіроўваць да 28 траўня, а падвядзенне вынікаў адбудзецца 31 траўня падчас правядзення акцыі. Пераможцаў узнагародзяць каштоўнымі падарункамі.

*БелаПАН*



# Даты і лёсы

## *12 траўня*

**1803.** Нарадзіўся барон Юстус фон Лібіг — нямецкі хімік, які адкрыў хлараформ.

**1828.** Нарадзіўся вядомы англійскі паэт і мастак Дантэ Габрыэль Расеці. Калі яганая жонка і натуршчыца памерла ад перадазіроўкі наркотыкаў, Расеці паклаў у труну з целам каханай жанчыны найбольш дарагое для яго — адзіны рукапіс сваіх вершаў, але праз некалькі гадоў даў усё ж згоду на тое, каб вершы дасталі з магілы і надрукавалі.

**1951.** Выпрабаванне першай амерыканскай вадароднай бомбы на атоле Інайвітак у Ціхім акіяне паказала, што яна здольная зруйнаваць горад у 100 разоў большы за Хірасіму.

**1954.** Беларусь далучылася да ЮНЕСКА.

## *13 траўня*

**1905.** Нарадзілася «матрыярх» беларускай тэатральнай сцэны Стэфанія Станюта. Сваю першую ролю яна атрымала ў 1919 г., у Купалаўскім тэатры іграе з 1932 г.

**1933.** Нарадзіўся вядомы беларускі мастак, аўтар гіганцкіх дэкаратыўных твораў Аляксандр Кішчанка. Перад ягоным «Габеленам стагоддзя», плошчай у некалькі соцень квадратных метраў, нават чалавек пачынае адчуваць сябе моллю.

**1956.** Застрэліўся старшыня Саюза пісьменнікаў СССР Аляксандр Фадзееў. У лісце да ЦК КПСС гэты ўчынак ён патлумачыў расчараваннем у новым кіраўніцтве краіны: «Ад гэтых бюракратаў можна чакаць яшчэ горшага, чым ад сатрапа Сталіна. Той хоць быў адукаваны, а гэтыя — невукі».

**1981.** Турэцкі тэрарыст Мехмет Алі Агджа на плошчы перад саборам св.Пятра параніў папу рымскага Яна-Паўла II, а таксама некалькі чалавек з натоўпу. Папа атрымаў чатыры кулі, але моцнае здароўе (ці ласка Боская?) дапамагло яму выжыць. Па некаторых звестках, да замаху на жыццё першаерарха каталіцкай царквы спрычыніўся КДБ, бо бачыў у паляку Яне-Паўле II пагрозу для сацыялістычнага ладу ў Польшчы.

## *14 траўня*

**1767.** Брытанскі ўрад увёў акцыз на продаж гарбаты ў амерыканскіх калоніях. Абурэнне народа было настолькі моцным, што ў выніку вайны за незалежнасць утварылася новая дзяржава — ЗША.

**1933.** Нарадзіўся апошні камуністычны кіраўнік Беларусі, а цяпер старшыня ніжняй палаты нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў.

**1946.** Мінск атрымаў незалежнасць ад Мінскай вобласці — сталіца набыла статус горада рэспубліканскага падпарадкавання.

**1948.** Пры падтрымцы СССР і ЗША ў Палесціне была створаная новая дзяржава — Ізраіль на чале з прэзідэнтам Хаімам Вейцманам і прэм'ер-міністрам Давідам Бен-Гурыёнам. Ужо назаўтра пачалася першая ізраільска-арабская вайна. Арабская палесцінская дзяржава не створаная дагэтуль.

**1955.** Савецкі Саюз і залежныя ад яго краіны Цэнтральнай Еўропы заснавалі Арганізацыю Варшаўскага Дагавора.

**1973.** ЗША запусцілі ў космас сваю першую арбітальную станцыю *Skylab I*.

**1991.** Пакончыла з сабой удава Мао Цзэдуна Цзян Цын. Праз месяц пасля смерці "вялікага стырнавога" ў 1976 г. яе разам з трыма іншымі прадстаўнікамі вышэйшага кіраўніцтва КНР (г.зв. «Банду Чатырох») абвінавацілі ў гібелі мільёнаў людзей падчас «культурнай рэвалюцыі» і прыгаварылі да пакарання смерцю, але потым ёй замянілі прысуд на пажыццёвае зняволенне пад хатнім арыштам. «Пасмяротнае зняволенне» самога Мао ў маўзалеі на плошчы Цяньаньмынь працягваецца і цяпер.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# «Виагра» творит чудеса

**Американский препарат под названием «Виагра», являющийся первым нехирургическим средством борьбы с импотенцией мужчин, оказался невероятно популярным в США.**

За первые 3 недели, прошедшие со времени появления лекарства на рынке, было выписано более 150 тысяч рецептов. Популярность препарата оказалась настолько сенсационной, что «Виагра» украсила первые полосы популярнейших журналов «Тайм» и «Бизнесуик».

Многие мужчины, страдающие от импотенции, утверждают, что этот препарат изменил их жизнь. В это несложно поверить, учитывая, что средство не требует инъекций или имплантантов в мужской орган и, в отличие от других вариантов, не вызывает эрекции до тех пор, пока обстановка не будет к этому располагать.

Врачи и фармацевты отмечают, что нередко и женщины, причем не от лица своих мужей, обращаются к медикам с просьбой выписать рецепт на препарат. Производящая «Виагру» компания «Пфайзер» в настоящее время проводит испытание на группе женщин в Европе, и некоторые врачи не видят причин, по которым лекарство не может ими использоваться. По словам директора Американского института изучения импотенции врача-уролога Майрона Мэрдока, женские и мужские половые органы состоят из одинаковой ткани, и при возбуждении «Виагра» стимулирует приток к ним крови. Поэтому использование препаратов, в том числе и «Виагры», может помочь и женщинам, которые не имеют интереса к сексу или боятся его потерять. Это, в свою очередь, может в ряде случаев улучшить климат в семьях, укрепить супружеские отношения.

Тем временем «Пфайзер» ведет поиск способов ускорить действие препарата. Эффект от приема лекарства наступает приблизительно через час. Совместно с учеными корпорации «Р.П. Шерер» специалисты «Пфайзер» пытаются создать таблетку, которая будет растворяться во рту пациента в течение нескольких секунд, а начинать действовать через несколько минут. Однако представители компаний предупреждают, что новый вид «Виагры» появится лишь через несколько лет, а пока мужчинам, страдающим импотенцией, и женщинам придется оценивать перспективу за час. Принимать же средство «на авось» довольно накладно, поскольку каждая таблетка стоит более 10 долларов.

**Василий РОМАНЦОВ**

# Главное в женщине... Талия?

**Что больше всего привлекает мужчин в женской фигуре? Оказывается, вовсе не бюст, не ноги, а талия.**

Такой вывод сделал известный американский ученый из университета Оклахомы Энди Уинтер. С помощью выработанной им методики он установил, что привлекательность женщины напрямую зависит от пропорции между объемом бедер и объемом талии. Идеальное соотношение, которое исчисляется путем деления обхвата талии на обхват бедер, колеблется — по Уинтеру — в пределах от 0,67 до 0,8. Согласно его методу исчисления к категории идеальных женщин относятся Софи Лорен (0,68) и знаменитая манекенщица Синди Кроуфорд (0,69). Немножко недотягивает до этого показателя живущая сейчас в США Бриджит Бардо (0,66). Именно на этих звездах и опробовал свой метод Уинтер, естественно, с их добровольного согласия.

**Б.П.**




*Производитель нижнего белья немецкая фирма Bruno Banani задумала нанести конкурентам сокрушительный удар. Дабы показать, что изделия фирмы не только эстетически безупречны, но и крайне прочны и удобны в носке, решено снабжать их сертификационной маркой Space proof — «Испытано в космосе». Дабы это не было голословным утверждением, партия белья от Banani будет направлена на российскую орбитальную станцию «Мир». Работающие там космонавты испытают его на себе.*

# В XXI веке мы полетим со скоростью 11200 км/час!

**Лет через 20-30 пассажиров, летающих самолетами ведущих мировых авиакомпаний, ожидают настоящие чудеса.**

«Вы навсегда забудете, что такое задержки рейсов, утомительные многочасовые перелеты, тесные кресла и жесткая курица, предлагаемая на обед обслуживающим персоналом», — уверяют представители НАСА и корпорации «Боинг», совместно взявшихся осуществить настоящую революцию воздушного транспорта.

Уже сейчас разрабатываются несколько моделей лайнеров XXI века, которые будут летать значительно быстрее любого современного «Конкорда», перевозя к тому же на своем борту и втрое больше пассажиров. Развивая скорость около 2.400 километров в час, самолет недалекого будущего доставит вас из Лос-Анджелеса в Токио всего за 4 часа. Появятся эти суперлайнеры, как считают в НАСА, уже в 2015 году.

Среди авиалайнеров нового поколения явно выделяются экстравагантные «летающие крылья». Корпус у этой модели как бы отсутствует, сливаясь с двумя мощными крыльями. При этом самолет рассчитан на 800 пассажиров — это в два раза превышает вместимость «Боинга-747». Кроме того, "летающие крылья» экологичны и экономно расходуют топливо. А недостаток у модели один — очень мало иллюминаторов. Впрочем, если вас уж так манит однообразный небесно-голубой пейзаж, вы можете наблюдать за ним с помощью индивидуального монитора, который установлен за спинкой кресла впереди сидящего пассажира.

Другой лайнер менее поражает с точки зрения дизайна, зато скорость у него будет просто невероятная — примерно 11.200 километров в час! Это больше чем в одиннадцать раз превышает скорость самого скоростного современного авиалайнера. Летать он будет на высоте свыше 30 километров. Однако пока инженеры НАСА не решили главную проблему этого фантастического проекта: при такой скорости корпус самолета будет нагреваться до трех тысяч градусов по Фаренгейту, и машина может просто расплавиться. Чтобы решить эту проблему, считают специалисты, понадобятся, может быть, десятилетия, зато, как только удастся это сделать, долететь из Лос-Анджелеса до Сиднея можно будет всего за два часа.

И еще одно предсказание от НАСА: в следующем столетии авиалайнер будет стоить не больше дорогого автомобиля, и купить его могут даже люди со средним достатком! «И им необязательно будет оканчивать летные курсы, — приводит журнал «Ньюсуик» слова генерального менеджера НАСА Брюса Холмса. — При том уровне компьютеризации полеты станут безопасными, и пилоту, чтобы долететь, предположим, из Бостона в Нью-Йорк, будет вполне достаточно лишь дать ЭВМ необходимую команду».

**Ярослав КАРАМОВ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1186 Нумар падпісаны ў друк 11.05.98 (15:00) Наклад — 19.390